*Крык душы*

# Шаноўныя, паважаныя, суніміцеся!..

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Чаго толькі не прыдумляюць і не бяруць на ўзбраенне працўнікі ўсталявання беларускай мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай! Самае ж недарэчнае і абсурднае з гэтых прыдумак — вылазкі на старонкі друку з "навукова-тэарэтычнымі" абгрунтаваннямі, што асобнай, самастойнай беларускай мовы не было і няма наогул, як і не было і няма самога беларускага народа. Вылазкі настолькі абсурдныя, амаральныя і ганебныя, што спыняцца на іх — з павагі да сябе і да чытачоў — не выпадае. Гэта ўжо, так бы мовіць, па-за ўсякай палемікай. Тым больш што адразу ўспамінаюцца фашысцкія ідэолагі з ведамства Гебельса, ідэолагі санацыйнага рэжыму, які ажыццяўляў у акупаванай Заходняй Беларусі Пілсудскі, і на іх падобныя. Нават у самыя змрочныя часы сталіншчыны ні адзін цемрашал і крыважэрца не дагаворваўся да агульнага адмаўлення Беларусі, беларускай нацыі, беларускай мовы і культуры.

Нядаўна прагучала яшчэ адно арыгінальнае тэарэтычнае абгрунтаванне, чаму руская мова павінна ў Беларусі быць дзяржаўнай. Без гэтага, ці бачыце, Беларусь не стане цэнтрам СНД і еўразіяцкіх народаў, а значыць, не можа ў выніку гэтага быць і прыцягальнай для капіталаў замежных краін. Во, куды хапіў таварыш-тэарэтык! Маўляў, павінны ж быць амбіцыя і гонар у дзяржавы: не можа ж яна з-за такой дробязі, як мова, траціць ролю цэнтра СНД! Але давайце будзем лагічна паслядоўнымі: зрабіць у нас сёння рускую мову дзяржаўнай — значыць, паставіць крыж на дзяржаўнай мове беларускай, а па сутнасці, і на ўсім нацыянальным адраджэнні Беларусі. Вось і выходзіць: згадзіцеся на нацыянальнае самазабойства — і тады ў Рэспубліку Беларусь пацякуць з-за граніцы капіталы. Выбачайце, а — для каго пацякуць? І як будзе тады ўжо называцца наша дзяржава?..

Дайшло да таго, што найбольш апантаныя "клапатліўцы" пра дэмакратычную і прававую дзяржаву Беларусь падрыхтавалі і апублікавалі праект яшчэ аднаго Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Гэта сведчыць, што намер пэўных грамадскіх сіл дэстабілізаваць нацыянальна-палітычную сітуацыю ў Беларусі куды больш сур'ёзны, чым можна было думаць, мяркуючы па іх ранейшых разрозненых выступленнях у друку. Глыбока засмучае гэта не ўзважаная на шалях грамадзянскай адказнасці ініцыятыва з патрабаваннем вынесці пытанне аб другой дзяржаўнай мове ў Беларусі на ўсенародны рэферэндум.

Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь ёсць, прыняты 26 студзеня 1990 года (яшчэ на сесіі Вярхоўнага Савета папярэдняга склікання), і, як усякі іншы закон, яго трэба выконваць — і толькі. Дарэчы, калі ён быў абвешчаны — пратэстаў супраць яго не паступала, былі адно заўвагі, што занадта расцягнутыя тэрміны выканання яго асобных артыкулаў. Значыць, Закон быў успрыняты як своечасовы, патрэбны і, галоўнае, прынцыпова справядлівы дзяржаўны дакумент. Трохі-патроху ён пракладае дарогу справе беларускага нацыянальнага адраджэння, садзейнічае станаўленню незалежнай беларускай дзяржавы. Паступова, хаця і з цяжкасцямі, ажыццяўляецца Дзяржаўная праграма развіцця беларускай і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь.

Шкада, што некаторыя кіраўнікі палітычных рухаў на Беларусі, замест таго каб паказваць прыклад павагі да законаў сваёй дзяржавы, праяўляюць ініцыятыву адваротнага накірунку, ініцыятыву, не ўзгодненую з інтарэсамі беларускага народа і Рэспублікі Беларусь і, вядома ж, бесперспектыўную.

У гісторыі Беларусі наступіў лёсавызначальны момант. Хочацца думаць, што гэта разумеюць усе. Ад кожнага, хто прэтэндуе сёння на дзейнасць у якасці палітыка, гэта патрабуе глыбей асэнсоўваць палітычныя і духоўныя працэсы ў жыцці грамадства, больш цвяроза глядзець на рэальны стан рэчаў, бачыць і падтрымліваць тыя здаровыя тэндэнцыі росту, за якімі будучыня.

Імкненне стрымаць працэс нацыянальнага адраджэння Беларусі — справа не толькі марная, але і шкодная. Усякая падобная дзейнасць спрыяе палітычнай дэстабілізацыі ў грамадстве, у той час як мы ўсе павінны быць зацікаўлены ў адваротным. Навошта наўмысна напальваць палітычную атмасферу ў грамадстве, калі столькі "гарачых" іншых праблем — эканамічных, сацыяльных, экалагічных, якія патрабуюць зноў жа нашай агульнай усенароднай увагі? Цяжка зразумець, а тым больш знайсці апраўданне таму, з якой зацятасцю і з якім напорам мусіруецца ў друку пытанне аб дзяржаўным статусе рускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь. Як быццам той Закон аб мовах, які ёсць, ну проста не дае людзям ні жыць, ні дыхаць, ні займацца працоўнай грамадска карыснай дзейнасцю.

Зразумець гэты напор можна толькі ў адным выпадку — калі, усведамляючы надзвычайную, вырашальную ролю нацыянальнай мовы ў працэсе станаўлення дзяржаўнасці, грамадзяне-палітыкі ставяць сабе за мэту пазбавіць яе гэтай ролі і гэтага значэння — з тым, каб паралізаваць сам працэс будаўніцтва незалежнай Беларускай дзяржавы. Але ж гэта значыць — хацець немагчымага! Народ прачнуўся, народ разбуджаны да актыўнай нацыянальна-гістарычнай дзейнасці, і, гаворачы словамі Янкі Купалы, "мы ўскрэслі, мы больш не заснём".

Перабіраю ў памяці імёны некаторых актывістаў супрацьўлення беларускаму нацыянальнаму адраджэнню. У сяго-таго — нават два дыпломы аб вышэйшай адукацыі. Два дыпломы, а не валодае не толькі мовай свайго народа, сваёй зямлі, але — што значна горш — і разуменнем самой праблемы. Нічога, аднак, дзіўнага: так вучылі з першага класа школы. Усяму, чаму хочаш, вучылі — толькі не правільнаму, чалавечнаму і, падкрэсліваю, дзяржаўнаму разуменню, што такое народ, яго гісторыя, яго культура, яго мова. І як да ўсяго гэтага грамадзянін дзяржавы павінен ставіцца. І што ад узроўню нацыянальнай, гістарычнай і дзяржаўнай самасвядомасці грамадзян залежыць у вялікай меры сацыяльна-эканамічны стан краіны і наш агульны дабрабыт.

У нас няма аб'ектыўных падстаў для абвастрэння моўнага пытання і стварэння нездаровай атмасферы наўкола яго, для нагнятання страхаў-жахаў, а тым больш — для грамадскага бунту на гэтай глебе. Па-першае, сама блізкасць моў — беларускай і рускай — начыста здымае на бытавым узроўні перашкоды ва ўзаемаадносінах (практычна перакладчык не патрэбен). Па-другое, законы нашы (аб мовах, аб адукацыі, аб нацыянальных меншасцях) вельмі памяркоўныя, абачлівыя, узважаныя, наракаць на іх — проста грэх. Хіба што паступіўшыся сумленнем, выбачайце... Менавіта таму, што аб'ектыўных прычын для "моўнага бунту" няма, у нас, у Беларусі, і спакойна, і можна спакойна ісці далей — займацца неадкладнымі сацыяльна-эканамічнымі праблемамі. Але ўражанне, на вялікі жаль, такое, што сяму-таму з грамадзян гэта спакойная хада не падабаецца, гэта адносная палітычная стабільнасць не па нутру. Хочацца, відаць, разладу, нацыянальнай нязгоды, канфрантацыі, а можа, і чаго яшчэ горшага, яшчэ больш небяспечнага і страшнага. Хочацца справакаваць нешта "востранькае". Як мы ўсе добра разумеем, дасягнуць гэтага не так і цяжка. Бо не трэба ж думаць, што многія сотні тысяч беларусаў (перш за ўсё — маладых), акрыленых ідэяй нацыянальнага адраджэння Беларусі, моцна запаленых гэтай ідэяй, глыбока ахопленых жыватворным грамадска-палітычным настроем, — што яны змірацца, калі, крый Бог, несправядлівасць пераможа, што яны моўчкі праглынуць крыўду.

Калі што і шкодна ў нашым жыцці палітызаваць — дык гэта моўную сферу. Сферу, у якой усё само сабой, па волі Усявышняга, павінна быць зразумелым і пагодненым. Ага! — нашы палітычныя апаненты выступаюць у абарону Закона аб мовах — значыць, мы будзем выступаць супраць. Так непрыязнасць да пэўнай ідэалогіі, да носьбітаў гэтай ідэалогіі пераносіцца на мову, а яна ж — не ад нейкага класа, клана, партыі, руху, яна — ад самога Бога, яна — ад гэтай зямлі, яна — сімвал гэтай зямлі і таму не павінна быць прадметам палітычнай барацьбы. Рабіць яе такім прадметам — безадказна і амаральна. Мова не павінна падзяляць людзей адной зямлі, адной дзяржавы. Канфрантацыя на грунце мовы?.. Што можа быць больш недарэчным? І больш сумным? Можна зразумець разыходжанне і процістаянне па адносінах да сацыяльна-эканамічнай сістэмы, да грамадска-палітычнага ладу, да праблемы ўласнасці, да вайны і міру, нарэшце. Але — па адносінах да мовы? Каб мова была прычынай раздору, канфрантацыі і варажнечы? Неверагодна!.. Неверагодна!..

Нядаўна адзін ваяўнічы ідэолаг эпохі дзікага рынку разышоўся да таго, што абазваў Таварыства беларускай мовы "духоўнай паліцыяй". Гэта — пра тысячы сумленных, простых, шчырых людзей, у якіх апрача любові да мовы сваёй роднай зямлі ніякай сілы-ўлады няма, як няма і нажытых на спекуляцыі мільёнаў, і высокіх пасад, і шыкоўнай маёмасці. Гэта — пра настаўнікаў, пра студэнтаў і выкладчыкаў навучальных устаноў (ТБМ на 85—90 працэнтаў складаецца з іх). Гэта яны — "духоўная паліцыя". Гэта яны распараджаюцца ў нас тэлебачаннем, радыё, кнігавыдавецтвамі, паліграфічнымі базамі, канцэртнымі арганізацыямі, шматтыражнымі газетамі і часопісамі, гэта яны кіруюць інстытутамі, навуковымі лабараторыямі (у тым ліку — сацыялагічнымі), усемагчымымі інтэлектуальнымі цэнтрамі і фірмамі, уплывовымі канфесіямі, самымі масавымі палітычнымі партыямі...

І паварочваецца ж язык, аднак жа!

"Насилие в духовной сфере не приведет к добру", — кідае ў эфір рытарычную сентэнцыю вялікі змагар за дабро, за сумленнасць, за сціпласць. Правільна! Сучасны стан беларускай мовы — найлепшы доказ, да чаго прыводзіць насілле і гвалт у духоўнай сферы. Вы, панове, карыстаецеся вынікамі дзікага таталітарысцкага гвалту ў духоўнай сферы беларускага народа — гвалту над яго мовай, яго культурай, яго гістарычнай памяццю. Ледзь паспрабавала ў 20-я гады беларуская мова заняць належнае месца, як тут жа "неистовые ревнители" абрынуліся на яе і яе абаронцаў — збілі, счарнілі, зьэсцілі маральна, здрапежылі, здраталі, знішчылі фізічна. Чаму вы, панове-змагары за "дэмакратыю", не гаворыце пра тое, што было зроблена з беларускай мовай, беларускай школай, беларускім друкам і г.д. пад шырмай інтэрнацыяналізму? Ці, можа, вам невядома ўсё гэта? Ну, як жа! Прэтэндуеце на забеспячэнне аб'ектыўнай інфармацыяй па ўсіх пытаннях грамадскага жыцця, а тут — інфармацыяй не валодаеце? А можа, усё-такі валодаеце? Дык тады і скажыце ўсю праўду наконт беларускай мовы і яе лёсу. І аб тым, што яе можа ўратаваць, як не даць ёй канчаткова сысці ў небыццё.

Ах, гэта апошняе ў вашы планы не ўваходзіць? У вас мэты і задачы зусім іншыя, процілеглыя? Мы гэта ведаем. Але скажыце пра гэта шчыра ўсяму народу — у вашых жа руках магутныя сродкі масавай інфармацыі. Скажыце тое, што думаеце самнасам, не хітруючы. Так і скажыце: мы не хочам, каб тут, на беларускай зямлі, гучала беларуская мова, каб яна панавала тут гэтак жа, як польская мова ў Польшчы, або як сербская ў Сербіі, ці як іўрыт у Ізраілі. Мы хочам, каб яна трохі-патрохі сышла на ніштo і знікла. І дабаўце: тут мы цалкам згодны з усімі — і старымі, і новымі — партыямі камуністычнымі, тут мы з імі аднадумцы і адзінаверцы. У дробязях, у пытаннях прыватных і часовых мы з імі разыходзімся, а што датычыцца мовы — галоўнага пытання жыцця і смерці нацыі — тут мы з імі заадно! Дабіць і дадушыць — каб і паміну не было!

Дык не выйдзе, панове! І дарэмна, абсалютна дарэмна стараецеся! Давесці нашу краіну да новага (на ўзор 1929—1937 гг.) крывавага пагрому Беларускай ідэі — нікому не ўдасца. Не тыя часы, панове!..

Вось чаму ўсіх тых, хто яшчэ не прыслухаўся да голасу розуму, я заклікаю прыслухацца і спыніць шкодную і безнадзейную барацьбу супраць беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь, заклікаю ахвяраваць сілы сваёй душы і сэрца на падтрымку нашай дзяржаўнай мовы, на яе пашырэнне ў грамадскім ужытку і тым самым на развіццё і росквіт беларускай нацыянальнай культуры, а значыць, — і на ўмацаванне дружбы паміж людзьмі ўсіх этнічных супольнасцей.

Колькасць нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі расце і будзе расці яшчэ больш напорна, больш шпаркімі тэмпамі. І, вядома ж, яна, інтэлігенцыя, будзе "задаваць тон" — у моц Богам дадзеных ёй магчымасцей, — будзе вызначаць тэндэнцыю духоўнага развіцця народа. Хто з палітыкаў гэтага не разумее і не прызнае, — наўрад ці ён валодае цвярозым поглядам на рэальны стан рэчаў і дастатковым пачуццём адказнасці за далейшае развіццё падзей. Бо калі гэтай рэальнасці не прызнаць — тады застаецца толькі той шлях, які ўжо аднойчы быў пад нашым небам пройдзены: сталінска-яжоўска-берыеўскі шлях татальнага фізічнага вынішчэння ўсёй нацыянальнай інтэлігенцыі. Хіба што нехта ўжо гатовы і да такога паўтарэння гісторыі? Хіба што!.. Іначай усе намаганні спыніць рост нацыянальнай самасвядомасці, пачуцця нацыянальнай годнасці абсалютна марныя. Як трава прабіваецца праз асфальт, так і жыватворны дух народа прабіваецца праз тоўшчу абледзянення, назва якога — нянавісць да самой ідэі свабоднай незалежнай Беларусі, нецярпімасць да нашай дзяржаўнай суверэннасці... І колькі яго ні ўціскай, ні дратуй, ні душы — ён зноў і зноў праб'ецца і вырвецца на волю, і ўсё пачнецца спачатку, і зноў паявіцца ў новым абліччы Каліноўскі, і падасць свой грымотны голас новы, іншы Купала, — і зноў народ пойдзе за імі, а не за тымі, хто хоча дыктаваць яму сваю волю...

Беларускі народ жыве і будзе жыць, будуць жыць і яго мова, яго культура, яго нацыянальны геній. Не для таго ж ён прыйшоў на зямлю, каб, не сказаўшы чалавецтву сваё непаўторнае слова, сысці ў небыццё нямком. Святы абавязак усіх, каму любая і дарагая Беларусь, — падтрымаць яе адвечную мову, пасадзейнічаць — асабістым прыкладам — яе пашырэнню ва ўжытку, каб яна гучала і ў вас дома, і на вашым рабочым месцы, і на вуліцы — усюды і скрозь, дзе мы, дзеці гэтай зямлі, жывём і творым сваю ўласную долю. Атрасіце ж і скіньце, хто яшчэ гэтага не зрабіў, з душы ляноту, санлівасць і дрымату — і вы лёгка і хутка далучыцеся да мовы сваёй дзяржавы. Той, хто ніколі яе не вучыў — патроху, памалу асвоіць: ніхто ж, выбачайце, у карак не гоніць і за горла не бярэ, як гэта стараюцца падаць некаторыя органы друку. Той, хто некалі ведаў сваю родную мову ды прызабыў — успомніць і зусім без цяжкасці вернецца ў яе стыхію. Ну, а самае галоўнае — навучайце гэтай мове сваіх дзетак і ўнукаў — ад калыскі, ад матчыных грудзей пачынаючы. Навучайце! Бо толькі гэтак вы заслужыце ў будучыні іх найвялікшую ўдзячнасць і не пачуеце папроку за сваю нямудрасць, і ніхто з іх не ўсміхнецца аднойчы "усмешкой горькою обманутого сына над промотавшимся отцом".

*Есть и такое мнение*

## Земля должна не продаваться, а служить людям

Сейчас много говорят о проблеме собственности на землю. На мой взгляд, лучшим решением земельного вопроса было бы частное владение землей на основе договора с правительством, но не частная собственность.

Это позволит всем без опаски вкладывать труд и капиталы в землю для получения наилучших результатов. То же относится и к иностранным инвесторам, которые могут арендовать землю на достаточно продолжительные сроки.

Со мной многие захотят поспорить. А я отсылаю их к примеру процветающего Гонконга, где ни один квадратный метр земли не находится в частной собственности. Вся земля только сдается в аренду. Заметьте, это обстоятельство совсем не мешает Гонконгу процветать, располагая финансовыми резервами, втрое большими, чем располагает британское правительство.

**Вячеслав ИЩЕНКО.**

*Хочу честно сказать...*

## Дожили до милостыни

Муж мой всю войну прошел от звонка до звонка. Почти полвека рабочего стажа. Теперь мы глубокие и нуждающиеся старики. Первая нужда — топливо. Но помочь с ним никто не хочет, зато привезли старое тряпье из гуманитарной помощи и говорят: бери, что тебе нужно!

Прожив такие трудные послевоенные годы, люди старались не обижать других. Молодежь больше заботилась о стариках, старшеклассники и те ходили по домам и спрашивали: не надо ли чего сделать? Теперь нет никому дела до стариков. Исполкомы от людей совсем отгородились. Неужели не стыдно нашему правительству, что его народ должны спасать гуманитарные посылки?

**Евгения ДУБОВСКАЯ.**

г. Слуцк.

*Рэпліка*

## Што ж ты лжэш, Ларыса Ключнікава!

**У штаб-кватэры СНД у Мінску ўводзіцца новы прапускны рэжым для журналістаў. Такой міліцэйска-гулагаўскай навіной парадавала чытачоў папярэдняга нумара газеты карэспандэнт Белінфарма Ларыса Ключнікава.**

Трэба прызнаць спрыт і вынаходлівасць аўтара: у малюсенькую, усяго ў 10 радкоў заметку, ён змог уціснуць максімум лагернай тэрміналогіі. І пра тое, што ўводзяцца спецпрапускі, і што рэдакцыйныя пасведчанні адмяняюцца, бо яны, звярніце ўвагу на стыль, "ужо не будуць з'яўляцца дазволам на ўваход у штаб-кватэру". Ну, калонія ўзмоцненага рэжыму, дый годзе!

Што ж робіцца на самай справе? Прэс-служба Выканаўчага сакратарыята СНД пачала акрэдытацыю журналістаў, якія, ёсць спадзяванне, будуць больш-менш рэгулярна асвятляць дзейнасць каардынацыйных органаў СНД. Яны атрымаюць акрэдытацыйныя карткі, якія пазбаўляюць ад неабходнасці афармлення разавых прапускоў на ўсе мерапрыемствы, якія праводзяцца ў сценах штаб-кватэры. Такое здаўна робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце і ніякага дачынення да прапускнога рэжыму не мае. Гэта, як вядома, клопат зусім іншага ведамства.

Акрамя таго, з фарміраваннем "сваёй каманды" пастаянных аўтараў супрацоўнікі прэс-службы звязваюць надзею на змяншэнне памылак і недарэчнасцей у публікацыях па праблемах СНД, бо журналісту, які стала працуе ў адной тэматыцы, лягчэй дапамагчы засвоіць розніцу, скажам, паміж пагадненнем і адозвай альбо Выканаўчым сакратарыятам і выканкамам райсавета...

Інфармацыя рэпарцёра Белінфарма Л.Ключнікавай аздоблена дасціпным загалоўкам: "Куды прэш, пісака!", Ну, як тут, крыху перайначыўшы яго, на тым жа праставата-зэкаўскім жаргоне не ўсклікнуць: "Што ж ты лжэш, Ларыса Ключнікава!"

**Прэс-служба Выканаўчага сакратарыята СНД.**

*Времена и нравы*

## К бою! "Красные следопыты" идут...

**Отважно выставил за дверь ветеран войны молодых людей, подозрительно интересовавшихся его боевыми наградами.**

Мнимых музейных работников и "красных следопытов" в Орше развелось немало. Недавно двое проходимцев, использовав доверчивость одного знаменитого жителя города, "увели" у него Звезду Героя и другие знаки фронтового отличия. Милиция, хотя и не нашла пока воров, позаботилась с помощью местного радио о том, чтобы похождения охотников за орденами стали широко известны.

**Сергей ВИТЕБСКИЙ.**

*Внимание!*

## Чтобы ваши облигации не пропали совсем...

Министерство финансов и Сберегательный банк Беларуси напоминают, что срок выкупа облигаций целевого беспроцентного займа 1990 года заканчивается 30 июня 1993 года.

Вкладчикам указанных облигаций необходимо срочно обратиться в отделение Сбербанка за получением компенсации. После окончания этого срока облигации утрачивают силу и оплате не подлежат.

**Управление денежного обращения, кредита и ценных бумаг.**

*Ці чулі?*

## 31 чэрвеня, але толькі на секунду

**31 чэрвеня бывае не толькі ў казках. Яно стане рэальнасцю ў гэтым годзе паміж 30 чэрвеня і 1 ліпеня... на цэлую секунду.**

Дадатковы дзень нашага жыцця настане ў 0 гадзін па сусветнаму часу (на Беларусі — у 3 гадзіны раніцы) і праз імгненне закончыцца. Гэта секунда будзе ўведзена ва ўсіх кутках зямнога шара для ўзгаднення астранамічнага часу, па якому круціцца (дарэчы, вельмі нераўнамерна) наша планета, з каардынаваным, па якому арыентуемся, карыстаючыся самай дакладнай атамнай шкалой, мы.

Ні ў якім разе не "праспяць" падарунак чалавецтву ў выглядзе дадатковай секунды ў службе часу і частаты Мінскага цэнтра стандартызацыі і метралогіі. У пачатку чэрвеня гэта падраздзяленне публічна заявіла аб сваім статусе афіцыйнага захавальніка эталона часу незалежнай Беларусі. Раней уся рэспубліка чакала сігналу дакладнага часу з радыёстанцыі "Маяк", а цяпер беларусы чуюць іх некалькі разоў на дзень па роднаму радыё дзякуючы ўласнай службе часу і частаты.

Нават тым шчаслівчыкам, хто "часов не наблюдает", напэўна, цікава будзе даведацца, што памылка ўсяго толькі на адну мільённую долю секунды пры стыкоўцы касмічных караблёў аддаліць іх сустрэчу на трыста метраў.

**Вераніка БЯГУН, Белінфарм.**

г.Мінск.

*Крымінал*

## Адным "падаткам" менш

**Абясшкоджана група рэкеціраў, якая займалася на Гомельскім цэнтральным рынку вымаганнем ва ўкраінскіх "карабейнікаў".**

Значная розніца ў цэнах на прадукты харчавання і рэзкае паніжэнне жыццёвага ўзроўню на Украіне прывялі ў Беларусь сотні гандляроў з суседняй рэспублікі, якія ў абмен на алей, крупы і муку затаварваюцца беларускімі мяснымі вырабамі. Мясцовыя рэкеціры, зразумела, не хацелі ўпускаць свой шанц і абклалі "данінай" гандляроў з суседняй дзяржавы. Работнікі крымінальнага вышуку спынілі гэту беззаконнасць і адправілі аматараў лёгкай нажывы куды трэба.

**Віктар КОТАЎ, Белінфарм.**

г.Гомель.

## Увага!

Шаноўнае спадарства!

8 ліпеня 1993 года ў Мінску, у будынку Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, адкрыецца Першы з'езд беларусаў свету. З'езд праводзіцца ў мэтах далучэння інтэлектуальнага і эканамічнага патэнцыялу беларускай дыяспары да працэсу адраджэння незалежнай Беларусі.

Арганізатар з'езда — згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" — грамадская арганізацыя з абмежаванымі грашовымі сродкамі звяртаецца да ўсіх свядомых людзей і спадзяецца на вашу фінансавую падтрымку ў правядзенні з'езда.

Наш р/р N 700307, код 795 у камерцыйным банку "Беларусь" — з адзнакай "З"езд".

*Вострая тэма*

# Без уласнай валюты Беларусь не выберацца з крызісу

**Уладзімір НОВІК, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь**

**Што ставіць у аснову сваёй грашова-крэдытнай палітыкі дзяржава, якая хоча мець стабільную эканамічную і сацыяльна-палітычную сістэму?**

Нягледзячы на складанасць узнятага пытання, адказ даволі просты. Вышэйшай канчатковай задачай грашова-крэдытнай палітыкі любой дзяржавы з'яўляюцца:

1) забеспячэнне стабільнасці цэн;

2) поўная занятасць насельніцтва;

3) рост рэальнага аб'ёму вытворчасці.

На вялікі жаль, усе з вышэйпрыведзеных паказчыкаў у Беларусі адмоўныя. Адразу ўзнікае пытанне — чаму? Тут можна прыводзіць розныя суб'ектыўныя і аб'ектыўныя прычыны, але адной з галоўных, на маю думку, з'яўляецца адсутнасць уласнай беларускай валюты.

Нацыянальны банк і ўрад сцвярджаюць, што Беларусь, дзякуючы іх мудрай палітыцы, пазбегла гіперінфляцыі і эканамічная сітуацыя ў нас лепшая, чым у іншых краінах СНД. Але што тады такое гіперінфляцыя, калі, напрыклад, цэны на нафту ў 1992 годзе ўзраслі з 448 рублёў у студзені да 19230 рублёў за тону ў снежні, гэта значыць, у 42 разы, а сярэднія даходы насельніцтва — толькі ў 9 разоў? І дакуль мы будзем раўняцца на горшае, а не на лепшае?

Чарговы раз дэкларуецца, што асноўнай задачай нацыянальнай грашова-крэдытнай палітыкі з'яўляецца абмежаванне тэмпаў інфляцыі і прадухіленне гіперінфляцыі шляхам доўгатэрміновай стратэгіі скарачэння тэмпаў росту грашовай масы ў абарачэнні. Давайце прааналізуем гэты тэзіс. Як вядома, эмісія грашовых знакаў, якія знаходзяцца ў абарачэнні ў Беларусі, праводзіцца ў Расіі. Гаворка ідзе і пра расійскія рублі і пра разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі. Відавочна, што Расія, такім чынам, можа выгадна выкарыстоўваць і выкарыстоўвае інфляцыю ў абарону сваіх стратэгічных інтарэсаў у адносінах да Беларусі, паколькі друкарскі станок па вырабу расійскіх рублёў, а таксама разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі знаходзіцца ў яе руках. Гэта акалічнасць дазваляе расійскім урадавым стратэгам даволі эфектыўна, са свайго пункту гледжання, экспартаваць інфляцыю і рост дэфіцыту бюджэту ў Беларусь. Не трэба забываць, што інфляцыя — гэта не толькі накачванне эканомікі незабяспечанымі грашыма, але гэта яшчэ і сродак пераразмеркавання нацыянальных багаццяў. Такім чынам, расійскія стратэгі, выкарыстоўваючы марудную рэакцыю эканамічнай сістэмы Беларусі на адпаведныя ўздзеянні як вонкавых, так і ўнутраных эканамічных і палітычных фактараў, адсутнасць у беларускага ўрада стратэгіі супрацьдзеяння эканамічнаму прэсінгу з боку Расіі, дыктуюць сваю волю Беларусі менавіта дзякуючы адсутнасці беларускай нацыянальнай валюты.

У праекце Асноўных накірункаў грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1993 год гаворыцца аб жорсткім кантролі за станам грашовай масы ў абарачэнні. Але ці магчыма праз нашу банкаўскую сістэму кантраляваць спажыванне нацыянальнага прадукту Беларусі тымі структурамі і арганізацыямі, якія фінансуюцца і ўпраўляюцца з-за межаў рэспублікі, напрыклад часцямі расійскай арміі, размешчанымі на тэрыторыі Беларусі? Думаю, што не, паколькі амаль што беспераашкодна можна ўвозіць наяўныя расійскія грашовыя знакі, мінуючы нашу банкаўскую сістэму, і запускаць іх у грашовы абарот.

Праз нашу рэспубліку праходзяць шматлікія транзітныя транспартныя камунікацыі і трубаправоды, якімі бясплатна карыстаюцца нашы бліжэйшыя дзяржавы-суседзі. А Турцыя, напрыклад, толькі за транспарціроўку па нафтаправоду іракскай нафты да міжземнаморскіх тэрміналаў зарабляе каля мільярда долараў у год. Беларусь прадастаўляе сваю тэрыторыю і камунікацыі для расійскіх патрэб і ў той жа час стаіць перад ёй з працягнутай рукою.

Таму, лічу, спроба Нацыянальнага банка і ўрада аздаравіць грашова-крэдытную сістэму Беларусі без размежавання яе ад расійскай (праз увядзенне беларускай грашовай адзінкі і вывад з грашовага абарачэння ў Беларусі расійскага рубля) — гэта ілюзія, якую наш урад і Нацыянальны банк чарговы раз выдаюць як навукова-абгрунтаваную грашова-крэдытную палітыку суверэннай дзяржавы.

Адсутнасць дзейснага кантролю за грашовым абарачэннем спрыяе росквіту ценявой эканомікі. Увогуле ствараецца ўражанне, што нашы ўрадавыя і банкаўскія эканамічныя стратэгі стараюцца спрыяць у першую чаргу дзялкам і аферыстам ценявога бізнесу. Назавіце краіну, якая імкнецца да эканамічнай стабільнасці і ў якой безкантрольна абарачаецца такая вялікая колькасць наяўных грошай розных дзяржаў свету. Наш ваенна-прамысловы комплекс лье кракадзілавы слёзы з-за адсутнасці заказаў, а наша банкаўская і фінансава-крэдытная сістэмы не дачакаюцца камп'ютэрызацыі сваёй сферы і электранізацыі грашовага абарачэння.

Лічу, што Нацыянальны банк і ўрад замест дэкларатыўных Асноўных накірункаў павінны былі ўжо даўно распрацаваць і прадставіць Вярхоўнаму Савету праграму правядзення грашовай рэформы на базе ўвядзення нацыянальнай грашовай адзінкі і ўжо на яе падставе распрацоўваць грашова-крэдытную палітыку, накіраваную на стабілізацыю цэн і рост аб'ёмаў вытворчасці. Без гэтага рэалізацыя эканамічных рэформ, выхад з крызісу, раздзяржаўліванне і прыватызацыя, правядзенне самастойнай эканамічнай палітыкі немагчымы.

**Недастатковая ўвага з боку дзяржавы пры правядзенні эканамічных рэформ і структурнай перабудовы прамысловасці надаецца малому бізнесу. У час эканамічнага спаду менавіта малы бізнес адыгрывае галоўную стабілізуючую ролю і фарміруе падставы выхаду з крызісу: стварае новыя рабочыя месцы для людзей, якія губляюць працу на буйных прадпрыемствах у сувязі са скарачэннем вытворчасці, асвойвае новыя перспектыўныя накірункі гаспадарчай дзейнасці.**

**Пад малым бізнесам, напрыклад у ЗША, разумеюцца прадпрыемствы з колькасцю працуючых у сярэднім да 500 чалавек. Гэта прыблізны стандарт, паколькі ў кожнай галіне свае крытэрыі. Напрыклад, у сферы аўтарамонтнага сервісу — да 50 чалавек, а ў горназдабыўной прамысловасці — да 1000 чалавек. Усё залежыць ад аб'ёму продажу тавараў і паслуг. У сферы малога бізнесу ў ЗША занята звыш 50% працуючых амерыканцаў, ажыццяўляецца больш паловы ўсіх продажаў, ствараецца 50% нацыянальнага прадукту. Малому бізнесу ў ЗША надаецца вялікая ўвага з боку дзяржавы, таму што амерыканскія палітыкі лічаць малы бізнес супакойваючай сілай у часы крызісаў. У Беларусі ж малы бізнес так і не падняўся з каленяў і таму ніякай ролі ў стабілізацыі эканомікі не адыгрывае.**

11 чэрвеня гэтага года на адрас Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад урадавай камісіі Расійскай Федэрацыі па пытаннях крэдытнай палітыкі была даслана тэлеграма з шэрагам патрабаванняў ультыматыўнага характару, якія датычацца грашова-крэдытнай палітыкі Беларусі. З некаторымі пунктамі гэтай тэлеграмы нельга не пагадзіцца. Гэта датычыцца ў першую чаргу ўзгаднення падатковай, валютнай, мытнай і банкаўскай палітыкі. У астатнім сэнс тэлеграмы заключаецца ў ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці праз грашова-крэдытную палітыку Расіі.

Адсутнасць рэальнай эканамічнай самастойнасці, перш за ўсё такога яе элемента, як нацыянальная валюта, практычна пазбаўляе Беларусь магчымасці процідзейнічаць гіперінфляцыі і развалу эканомікі. Гэта, як сведчыць тэлеграма, можа прывесці да страты дзяржаўнай незалежнасці і поўнай страты даверу да ўсіх структур улады. Адсутнасць дакладнай інфармацыі па сітуацыі з грашовым абарачэннем і станам фінансава-крэдытнай сістэмы як у Беларусі, так і ў бліжэйшых краінах-партнёрах не дазваляе Вярхоўнаму Савету прымаць эканамічна абгрунтаваныя рашэнні.

Грашова-крэдытная сістэма як у Беларусі, так і ў краінах так званай рублёвай зоны не адпавядае патрабаванням цывілізаванага грашовага абарачэння і выклікае розныя эканамічныя і фінансавыя дэфармацыі. Хачу асабліва звярнуць ўвагу на тое, што ўвядзенне беларускай валюты і вывад з грашовага абарачэння расійскага рубля ніякім чынам нельга звязваць з выхадам з рублёвай зоны і якім бы там ні было адасабленнем ад эканамічнай прасторы СНД. Гэта цывілізаваная мера абароны эканамічных інтарэсаў Беларусі.

У міжнароднай валютнай практыцы існуе такое паняцце, як валютны кошык. Пад валютным кошыкам звычайна разумеецца набор нацыянальных валют тых дзяржаў, якія маюць паміж сабой цесныя эканамічныя адносіны. Напрыклад, у Еўропе існуе "кошык" нямецкай маркі, у які ўваходзіць аўстрыйскі шылінг, дацкая, шведская, а зараз ужо і эстонская крона, а таксама валюты іншых еўрапейскіх дзяржаў. Для валют, якія ўваходзяць у так званы валютны кошык, устанаўліваюцца жорсткія патрабаванні да нацыянальнай грашова-крэдытнай, валютнай, мытнай і падатковай палітыкі. Існуе сацыяльная працэдура ўзважвання нацыянальных валют, уваходзячых у валютны кошык, якая не дапускае завышэння або паніжэння курсаў валют, а значыць, і дэфармацый у міждзяржаўных гандлёвых адносінах.

Напрыклад, каля 70% знешнеэканамічных інтарэсаў Аўстрыі знаходзяцца ў Германіі, што цесна прывязвае аўстрыйскі шылінг да нямецкай маркі, — восем шылінгаў прыраўнены да адной нямецкай маркі. Што гэта азначае? Калі курс нямецкай маркі расце, то прапарцыянальна расце і курс аўстрыйскага шылінга, калі курс маркі падае, то падае і шылінг. Пры ўзгодненай грашова-крэдытнай, валютнай і падатковай палітыцы бізнесмену ўсё роўна дзе трымаць свае грошы — у Аўстрыі або Германіі, бо, дзякуючы гарманізацыі заканадаўства, нельга за кошт розніцы наяўных і безнаяўных курсаў або яшчэ якіх-небудзь фінансавых дэфармацый атрымаць, як кажуць, навар, зрабіць грошы з паветра. Заўважым пры гэтым, што Аўстрыя не ўваходзіць у Еўрапейскі эканамічны і абарончы саюзы (ЕЭС і НАТО), што не перашкаджае ёй цесна з імі супрацоўнічаць, як у грамадзянскай, так і ў ваеннай сферах і нават уваходзіць у валютны кошык вядучай краіны гэтых саюзаў — ФРГ.

Такім чынам, зацягванне беларускім урадам падрыхтоўкі праграмы грашовай рэформы вядзе толькі да паглыблення эканамічнага крызісу. Рэформы не трэба баяцца, трэба толькі паслядоўна і граматна правесці комплекс практычных мерапрыемстваў па іх укараненню. Для гэтага ёсць добры сусветны вопыт. А беларуская валюта можа заняць прыстойнае месца ў валютным кошыку расійскага рубля.

